

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 40 (68) 22—31 снежня 1993 г. Кошт 15 руб.

## У выданні:






Фотаплакат А. МЕМУСА.

## Альтэрнатыва

Рада гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» абмеркавала праблему ўдзелу сябраў дэмклуба ў гарвыканкамаўскае канферэнцыі «Саветы і дэмакратыя. Праблемы, пошукі, перспектывы».

Улічваючы, што Савецкая ўлада носіць антынародны злачынны характар, і тое, што канферэнцыя можа быць выкарыстана для стварэння ў віцяблян уяўлення пра дэмакратычнасць гарсавета, рада вырашыла не ўдзельнічаць у імпрэзе, ладжанай выканкамам, і правесці семінар, больш дакладную інфармацыю пра які чытайце на 2-й стар.

**Наш кар.**

*Алё, алё!*

## Але...

Здаецца, мы, журналісты «Выбара», адчуем як працавалі газетчыкі, скажам, стагоддзе назад. Рэдакцыйныя тэлефоны—не па нашае віне—пад пагрозаю адключэння гарадской ТТС. Такім чынам, калі нечакана на ваш чытацкі званок у рэдакцыю ніхто не адкажа, не хвалюйцеся: мы работаем. Але, як на пачатку эры ад нараджэння тэлефоннага.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## Шчаслівага Новага года!

### Зычым шчасця

Мінае 1993-ці. Год шматлікіх клопатаў, надзей, страчанага й набытага. Гэтыя 360 з лішкам дзён дадалі нашай газеце новых чытачоў, новых сяброў. Прайшлі часы, калі «Выбар» з цяжкасцю знаходзіў свайго чытэльніка. Сфармавалася і сетка нашых пастаянных пазаштатных карэспандэнтаў з розных куткоў вобласці (А. Мемус, У. Слабін, А. Карчэўскі, У. Падгол з Віцебска, В. Сцяпанаў (Орша), І. Лазука (Сянно), Л. Гаравы з Гарадка, А. Аркуш з Полацка і інш.). Сёння ім, а таксама ўсяе чытацкае аўдыторыі тыднёвіка мы кажам сваё шчырае «дзякуй» і зычым у новым годзе шчасця, здзяйснення мараў, плённае працы дзеля адраджэння Бацькаўшчыны.

**Рэдакцыя.**

## Зварот да працоўных калектываў г. Віцебска

На працягу апошніх двух гадоў усім нам прыходзіцца весці барацьбу за сваё існаванне, бо ўрад і Вярхоўны Савет не зацікаўлены ў паляпшэнні эканамічнага становішча ў Беларусі, вядуць палітыку скасавання незалежнасці, распродаж дзяржаўнай маёмасці. На жаль, адзіночныя выступленні працоўных паасобку вельмі лёгка падаўляюцца праўрадавым кіраўніцтвам прадпрыемстваў шляхам разавых падачак.

З прычыны гэтага становішча страйкам калектыву ППЧ-6 заклікае да сумесных выступленняў супраць збанкрутаваўшага ўрада ды Вярхоўнага Савета. У мэтах карэннай перамены становішча мы павінны патрабаваць неадкладнай адстаўкі ўрада Кебіча, стварэння пераходнага кааліцыйнага ўрада, датэрміновых выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы Рэспублікі Беларусь.

**Страйкам ППЧ-6.**

*Весткі з раёнаў*

## Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень!

Намеснік старшыні Сенненскага райвыканкама, ён жа начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва, Васіль Гапееў звярнуўся нядаўна, напярэдадні Юр'ева дня, па радыё да ўсіх жыхароў раёна. «Эканомце звадкаваны газ!»—такім быў асноўны лейтматыў ягонага выступлення. Гэтая неабходнасць тлумачыцца тым, гаварыў Васіль Васілевіч, што Беларусь за «блакітнае» паліва запазычыла Расіі некалькі мільярдаў рублёў. І апошняя спыніла падачу ў нашу краіну звадкаванага газу. А выкарыстанне яго на Сеннешчыне павялічылася прыкметна, асабліва ў сувязі з халадамі. У тыя дамы, дзе ёсць печы, газавыя балоны дастаўляцца не будуць. Магчыма і абмежаванне яго выкарыстання і ў шматкватэрных дамах.

Што ж, беларусам эканоміць не прывыкаць. Як-небудзь перазімуем... Цярпець наш бясслоўны народ прывык. Толькі як ён адрэагуе на запэўніванні таварыша Кебіча, што з Расіяй аб усім дамоўлена, што не вінна ёй Беларусь ужо ні рубля? Думаю, праглынем мы і гэтую пілюлю моўчкі, бо ў крыві нашых людзей страх перад наменклатурай.

**І. ЛАЗУКА.**

## Свет вакол нас

● Цэны на электрычнасць для індывідуальных спажыўцоў павінны ўзрасці ў Чэшскай рэспубліцы ў першым паўгоддзі будучага года прыкладна на 35 працэнтаў.

● У апошнія гады кінула курыць каля 40 мільёнаў амерыканцаў. Ці не таму тытунёвыя кампаніі ЗША рвуцца на рынак Усходняй Еўропы і, у прыватнасці, на Беларусь?

**М. МАРУДАЎ.**

## Адным радком

Апарат Віцебскага аблвыканкама складае 987 чалавек.

* * *

Мінаючы год юбілейны для службы гідралагічных назіранняў на Дзвіне ў раёне Віцебска. Яны пачаліся 185 гадоў назад.

* * *

Ахвяраванні на перарэгістрацыю клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» перавысілі 75 тысяч рублёў.

* * *

Беларускамоўнаму варыянту другога нумара часопіса «Дыялог. Карнавал. Хранатоп» не быць. Неабходных сродкаў для ягонага выхаду не знайшлося. Адмовіліся фундаваць выпуск на дзяржаўнай мове Беларускі фонд культуры, міністэрства інфармацыі.

**Н. КІЛДЗІНГ.**

Чарговы нумар газеты выйдзе 5 студзеня будучага года.

**З. Пазьняк**

# ГАЛОЎНЫ ВОРАГ—РАСЕЙСКІ ІМПЕРЫЯЛІЗМ

*(Выступ на V зьездзе Руху ў Кіеве 11 сьнежня 1993 г.)*

Паважаныя спадарыні і спадары!

Шаноўныя дэлегаты Зьезду!

Дазвольце перадаць вам сардэчнае прывітаньне ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

Мае развагі будуць пра Беларусь. Але вы ўбачыце, што тым самым размова ідзе і пра Украіну, бо ў нас падобныя праблемы, падобныя задачы, падобная бяда і агульны вораг—былая камуністычная наменклатура і імперскія сілы Расеі.

У жніўні 1991 года, калі пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве мы дамагліся незалежнасьці і спынілі дзейнасьць КПСС, тады не ўдалося дасягнуць вельмі важнага—правесьці новыя выбары і адхіліць наменклатуру ад улады. У Беларусі засталіся ва ўладзе стары Вярхоўны Савет, стары камуністычны ўрад, сфармаваны яшчэ на бюро ЦК КПБ, старыя Саветы і ўся савецкая наменклатура. Тая самая наменклатура, якая ні на дух не ўспрымала дзяржаўную незалежнасьць Беларусі; тая самая наменклатура, што адмовілася ад беларускай мовы і дагаджала Маскве. І вось гэтай самай наменклатуры нечакана для яе самой раптам за адзін дзень і адну ноч звалілася ў рукі незалежная дзяржава, зь якой яны не ведалі, што рабіць.

І яны пачалі яе рабаваць, раскрадаць, пераразьмяркоўваць дзяржаўную маёмасьць у сваю прыватную ўласнасьць. За два гады яны да рэшты развалілі эканоміку, паралізавалі фінансава-крэдытную сістэму, раскралі маёмасьць на мільярды даляраў, паставілі пад пагрозу нашу незалежнасьць і само існаваньне беларускай дзяржавы. Яны ўступілі ў змову з расейскімі камуністамі—групамі Хазбулатава, Руцкога, Чарнамырдзіна, і рыхтавалі ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Правал кастрычніцкага камуністычнага мяцяжу ў Маскве часткова прыпыніў гэты працэс.

Унікальнасьць посткамуністычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што наменклатурная ўлада, якая ацалела як рэліктавае ўтварэньне, выступае за ліквідацыю самастойнасьці ўласнай дзяржавы, выступае супраць рынкавых рэформаў, супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы, супраць нацыянальнага дзяржаўнага сьцяга і герба, якія раней пад страхам яна вымушана была прыняць і зацьвердзіць. Гэта зьява фенаменальная, але адначасна і заканамерная. У камунізма няма бацькаўшчыны і няма народа. Гэта крымінальная ўлада. Тут псіхалогія крымінальнай ахлакратыі, якая зьяўляецца сутнасьцю наменклатурнай палітыкі: красьці, ашукваць, прыстасоўвацца, ілгаць і зноў красьці. Вось і ўся палітыка.

Улада для іх—гэта іхняя прыватная ўласнасьць, а Бацькаўшчына—тавар, разьменная маёмасьць, якой яны гатовыя ў любы час заплаціць за ўратаваньне сваёй скуры.

Справа дайшла да таго, што беларуская наменклатура пачала здаваць Расеі за даўгі нацыянальныя нафтаперагонныя заводы і нацыянальную народную ўласнасьць.

Каб утрымаць за сабой уладу, яны пойдуць на любую подласьць, на любое крывавае злачынства. Посткамуністычная гісторыя краінаў былога СССР гэта добра пацьвярджае. Мы зрабілі для сябе вывады з гэтай гісторыі.

**Першая выснова.** Нельга супрацоўнічаць з камуністычнай наменклатурай у галіне дзяржаўнага будаўніцтва і палітыкі. Гэта бесперспектыўна, амаральна і супярэчыць прыродзе рэчаў. Пазітыўнага выніку не будзе.

Беларускі Народны Фронт адразу са жніўня 1991 года стаў у жорсткую апазіцыю да наменклатуры і не зрабіў памылкі, не верыў ні на ёту сваім краўчукам, не супрацоўнічаў зь імі.

**Другая выснова.** У нармальным здаровым грамадзтве не павінна быць ніякіх камуністычных арганізацыяў. Яны ствараюць пагрозу людзям, дзяржаве і грамадзтву. Дзейнасьць іх павінна быць забароненая. Метастазы камунізму павінны быць выдаленыя. Тым больш пасьля таго жахлівага генацыду, які камуністы тварылі ў нас з 1917 года, і таго тэрарызму і нянавісьці, якія яны правакуюць цяпер.

**Трэцяя выснова.** Ніякай дэмакратыі, ніякіх рынкавых рэформаў і ніякага станоўчага дзяржаўнага будаўніцтва не будзе, пакуль застаецца ўлада Саветаў. Саветы—гэта разбуральныя структуры, прыдуманыя бальшавікамі. Саветы трэба ліквідаваць рашуча, хутка і беспаваротна.

**Чацвёртая выснова.** Зло павінна быць пакаранае. Інакш яно робіцца нормай. Калі ў Беларусі стане дэмакратычная ўлада і калі да яе будзе мець дачыненьне Народны Фронт, тады ў краіне першым чынам будзе наведзены парадак.

Усе антыдзяржаўныя дагаворы і акты, прынятыя нашым тройчы нелегітымным Вярхоўным Саветам, не будуць прызнаныя. Дзяржаўныя прадпрыемствы, раскрадзеныя наменклатурай, перададзеныя Расеі і карумпаваным асобам, будуць нацыяналізаваныя, вернутыя дзяржаве і ўласьнікам. Народная ўласнасьць знойдзе сваіх гаспадароў, а жулікі і крымінальнікі —сваю турэмную камеру.

**Пятая выснова.** Беларусь павінна выйсьці з СНД. Рашуча і цьвёрда. Наш шлях—прыклад балтыйскіх краінаў. Нельга быць ні ў якіх саюзах, ні ў якіх садружнасьцях разам з Расеяй. Нельга даваць ніякіх фармальных повадаў для прымяненьня ў дачыненьні да нашай краіны расейскай імперскай палітыкі. Яна пагражае нашаму нацыянальнаму існаваньню.

**Шостая выснова.** Рынкавыя рэформы трэба пачынаць з уладкаваньня фінансава-крэдытнай сістэмы і увядзеньня нацыянальнай валюты.

**Сёмая выснова міжнароднага кшталту.** Павінна быць балтыйска-чарнаморская каардынацыя.

Усе краіны, разьмешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі, паміж Расеяй і Польшчай, маюць падобныя ўнутраныя задачы і агульную зьнешнюю пагрозу з боку імперскіх сілаў Расеі.

У гэтых геапалітычных умовах кожнаму ў адзіночку, ды яшчэ знаходзячыся ў СНД, супрацьстаяць імперскай палітыцы вельмі цяжка. Мы—балтыйска-чарнаморскія дзяржавы, проста абавязаныя каардынаваць свае дзеяньні паміж сабой і нашы дачыненьні з Усходам. Нашы ўсходнія межы павінны стаць аднолькава цьвёрдымі, а межы між сабой—мяккімі. Мы павінны стварыць процівагу, баланс паміж Усходам і Захадам, калі хочам выжыць як незалежныя дзяржавы ў гэтым падзеленым сьвеце. Ва ўсіх нас ёсьць агульная геапалітычная ніша. Мы павінны яе заняць, як толькі дэмакратычныя сілы і сілы незалежнасьці перамогуць у нашых краінах.

Дэмакратычныя сілы ў Беларусі цяпер дамагаюцца нечарговых выбараў і адстаўкі антынацыянальнага ўраду, які праводзіць акупацыйную прарасейскую палітыку. Галоўным нашым апанентам на выбарах будзе, як гэта, магчыма, не здасца для вас нечаканым, расейская імперская разьведка і тыя палітычныя ўтварэньні, арганізацыі—фантомы і структуры, якія яна стварыла і кантралюе. А кантралюе яна практычна поўнасьцю ўрад (Савет Міністраў), армію, памежныя і ўнутраныя войскі, камуністычныя і ветэранскія арганізацыі, часткова КДБ. Робіцца ўсё, каб разбурыць нашу дзяржаву, дыскрэдытаваць суверэнітэт, задушыць адраджэньне нацыянальнай культуры, паралізаваць эканоміку.

Сілы нацыянальнай незалежнасьці, дэмакратыі, дзяржаўнага разьвіцьця і ўвогуле нашы народы робяць намаганьні супраць агульнага ворага. Мы перажываем цяжкі час. Але я не сумняваюся, што мы пераможам.

Галоўныя перашкоды—старая наменклатурная ўлада і расейскі імперыялізм. Яны не вечныя ўжо самі па сабе. Гэтыя перашкоды абавязкова абваляцца. Трэба толькі набліжаць гэты час. І тады пачнецца новы ўздым—уздым спакойнага стваральнага і эфектыўнага разьвіцьця нашых вольных краінаў і народаў.

**Набліжайма ж гэты сьвяты час! Багаслаўляйма гэты добры шлях! Слава Украіне! Жыве незалежная Беларусь!**

## *Пытанні семінара*

**Гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» пачынаючы з 22 снежня г. г. праводзіць 4-х дзённы семінар па тэме: «Злачынная Савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй».**

**Пытанні для абмеркавання:**

1. Абмеркаванне матэрыялаў часовай парламенцкай камісіі.
2. Аналіз супроцьпраўных і карупцыйных дзеянняў Савецкай улады ў Віцебску (дакладчыкі—сябры грамадскай камісіі па барацьбе з карупцыяй У. Жыгулаў і У. Плешчанка, старшыня камісіі па правах чалавека А. Залеская).
3. Камуністычная прырода Савецкай улады.
4. Гісторыя ўзнікнення і генезіс крымінальных функцый Савецкай улады.
5. Прававыя ўмовы функцыяніравання злачыннай Савецкай улады ў сучаснасці.
6. Карупцыя як сутнасная рыса савецкай улады.
7. Барацьба з камуністычнай ідэалогіяй—духоўнай асновай Савецкай улады.
8. Міфы і міфалагізаваныя свядомасці «саўкова»-камуністычнага менталітэту.
9. Сродкі барацьбы з ідэалогіяй «саўковага» камунізму.
10. Арганізацыйныя сродкі барацьбы з Савецкай уладай.
11. Сродкі кантролю за юрыдычным бокам дзейнасці Савецкай улады.
12. Абмеркаванне выбаршчыкамі пытанняў да дэпутатаў гарсавета.
13. Прыняцце праграмы дзейнасці клуба.

22 снежня (серада) у ГДК у 19.00 пачатак семінара, 23 і 24 снежня (чацвер, пятніца) хатні аналіз ідэй, прапаноў і праектаў дакументаў і 25 снежня (субота) у рэдакцыі газеты «Выбар» (вул. Гогаля, 17) у 14.00 «круглы» стол і прыняцце праграмы.

Рада клуба.

*У мясцовых філіях*

## Новае кіраўніцтва

**13 снежня прайшоў справаздачна-выбарны сход Віцебскае філіі БСДГ. Магчыма, ён стане чарговым штуршком для актывізацыі працы партыі, бо сацыял-дэмакраты абнавілі кіраўніцтва гарадскога філіяла.**

Сваю палітычную работу грамадоўцы ацанілі станоўча, адначасова ўзгадаўшы пра «слабае наведванне паседжанняў» і асобныя хібы ў дзейнасці арганізацыі.

Сход абраў новы склад рады, скараціўшы яе з сямі да пяці чалавек. Вылучаны Канстанцін Савуневіч, Васіль Ігнаценка, Клаўдзія Галавіна, Васіль Якаўлеў і Валянцін Арлоў, які стаў кіраўніком рады.

Аднагалосная падтрымка В. Арлова як кандыдатуры на пасаду старшыні зусім не здзіўляе. Валянцін Мікалаевіч фактычна выконваў старшынёўскія функцыі не адзін месяц. А безальтэрнатыўнасць выбараў паказвае на аўтарытэт Арлова сярод аднапартыйцаў і адсутнасць (ці не выяўленне?) іншых лідэраў у мясцовых сацыял-дэмакратаў, якіх, між іншым, не так ужо й многа.

М. КАЛІНОЎСКІ.

## Планы

Напрыканцы студзеня віцебскія сябры і прыхільнікі Беларускага народнага фронта мяркуюць правесці справаздачна-выбарную канферэнцыю. Так было вырашана на апошнім паседжанні Віцебскае Рады БНФ.

Ю. Т.

## Змены

На апошнім паседжанні гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» прыняты новы статут. Старшынём аб'яднання зноў стаў Барыс Хамайда. Абраная рада клуба, у якую ўвашлі, апроч старшыні, Уладзімір Плешчанка, Валерый Журакоўскі, Уладзімір Падгол, Юрый Хлопкаў.

Ю. С.

## Да агульначалавечых каштоўнасцяў

**12 снежня ў Бешанковічах па ініцыятыве Віцебскай абласной арганізацыі АДПБ адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Цывілізацыя і культура».**

Адкрываючы яе, старшыня абласной арганізацыі партыі Пётр Галыня адзначыў, што ўсё больш відавочнай становіцца неабходнасць хуткага адмаўлення ад маралі, якая завяла грамадства ў тупік, і далучэння да хрысціянскіх каштоўнасцяў, як да галоўнага, што вызначае прагрэс ува ўсіх галінах чалавечага жыцця ў развітых краінах.

Сябры абласное рады аб'яднаных дэмакратаў Мікалай Турчанаў і Уладзімір Галамуздаў падрабязна расказалі аб гуманізме і справядлівасці, якія набываюць зараз агульначалавечае значэнне.

Рыначныя адносіны ў постіндустрыяльным грамадстве былі асноўным зместам даклада кандыдата эканам. навук, выкладчыка Полацкага дзяржаўнага універсітэта Мікалая Суханава.

Дыскусіі, што ўзнікалі, і пажаданні прысутных аб неабходнасці новых падобных сустрэчаў пацвердзілі правільнасць выбранага абласной філіяй Аб'яднанай дэмакратычнай партыі курса на далучэнне да агульначалавечых каштоўнасцяў як мага шырэйшых пластоў грамадства.

**Паводле прэс-службы Віцебскай абласной арганізацыі АДПБ**

## Пакуль абмежаваліся эканамічнымі патрабаваннямі

**«Выбар» паведамляў ужо аб барацьбе супрацоўнікаў ППЧ-6 за свае эканамічныя правы. Змаганне працягваецца болей двух гадоў і апошнюю кропку ставіць яшчэ рана.**

Вось і зноў калектыў пажарнай часткі стварыў страйкавы камітэт, патрабуе выплаты заробку за некалькі мінулых месяцаў запар, забеспячэння рабочай вопраткай. У выпадку невыканання патрабаванняў пажарныя абяцаюць абвясціць забастоўку ды выехаць на акцыю пратэсту пад аблвыканкам.

Магчыма, упраўленне пажарнае аховы, незадаволенае страйкам, паспрабуе сарваць яго, тым болей, што, здаецца, першыя памкненні да таго зробленыя. Працоўным прапанавана атрымаць па трыццаць тысячаў рублёў заробку (шчэ за кастрычнік). Мажліва, знойдуцца штрэйкбрэхеры і тады... зноў усё спачатку.

В. ІГНАЦЕНКА.

